# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЮ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 5 (260) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 4 ЛЮТАГА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


МАСТАЦКІЯ КАЛЕКТЫВЫ! НА СТАРТ!

## ТУРНІР МАСТАЦКІХ ГУРТКОЎ НА КУБАК „НІВЫ"

Агляд гурткоў мастацкай самадзейнасці ў гэтым годзе набывае дадатковую атракцыю. Апрача нармальнага змагання за першынства, гурткі будуць змагацца таксама за «кубак», які ўстанавіла наша рэдакцыя для найлепшага калектыву. Адгэтуль штогадовыя агляды будуць праводзіцца як «Турнір мастацкіх калектываў на кубак «Нівы». Але не толькі «кубак» з'яўляецца новым у традыцыйных ужо аглядах. Таксама пашыраецца змест і формы спаборніцтва. У час аглядаў будуць, напрыклад, праводзіцца сустрэчы з паэтамі і журналістамі «Нівы», арганізоўвацца выстаўкі, «Згадуй - згадулі» і інш.

Турнір на кубак «Нівы» з'яўляецца масавым мастацка-асветным мерапрыемствам, якое ставіць сваёй мэтай пашырэнне і паглыбленне цікавасці да беларускага друкаванага і жывога слова, песні, танца. Асаблівае месца адводзіцца ў «турніры» папулярызацыі мясцовага фальклору.

«Турнір» складаецца з двух этапаў: павятовых мерапрыемстваў, якія будуць праводзіцца ў лютым і сакавіку, і цэнтральнага мерапрыемства ў Беластоку ў красавіку.

Арганізатарамі Турніра з'яўляюцца: ГП БГКТ, Аддзел культуры ВРН, ВК Саюза сялянскай моладзі і наша рэдакцыя.

ВАСІЛЬ ГУЛЬКО

## ГАЛДАПШЧЫНА



Урачыстае святкаванне гадавіны вызвалення Голдапа гераічнай Савецкай Арміяй, сталася на ўсёй Галдапшчыне традыцыяй. Гэтая гадавіна сталася сімвалам вечнай дружбы паміж польскім і савецкімі народамі. І гэта не выпадкова. У зацятай барацьбе з гітлераўцамі, за вызваленне Голдапа, аддалі сваё жыццё каля 13 тысяч савецкіх воінаў. Насельніцтва Галдапшчыны, каб назаўсёды ўвекавечыць братнюю дапамогу савецкіх воінаў, выбудавала ў Голдапі помнік удзячнасці Савецкай Арміі. Каля яго, у час студзеньскіх урачыстасцей, заўсёды адбываюцца мітынгі працоўных, а помнік патанае ў чырвані вянкоў і кветак. Насельніцтва павета пастаянна апякуецца і могільнікам у Вронках, дзе спачывае вечным сном каля 12 тысяч савецкіх воінаў.

Сёлета, як і заўсёды 20 студзеня, Галдапшчына святкавала XVII гадавіну вызвалення. Маладыя людзі, якія нарадзіліся ў вызваленай Галдапшчыне, не памятаюць ужо таго страшэннага аблічча Галдапшчыны, якое нанесла ёй вайна. Горад Голдап быў знішчаны ў час вайны ў 85%. Куды ні глянь, усюды разрушаныя дамы, вуліцы. А што ашчадзіла вайна, дакончвалі спекулянцка - бандыцкія гіены «шабраўнікоў», ватагі якіх дзейнічалі на тэрыторыі вернутых зямель у першыя гады вызвалення.

Таму ўсё, што зараз знаходзіцца на тэрыторыі павета: новыя дамы, прадпрыемствы, адноўленая сельская гаспадарка — гэта справа рук працоўных Галдапшчыны.

Асноўную ролю ў гаспадарцы павета адыгрываюць Дзяржаўныя сельскія гаспадарствы (ПГР). Займаюць яны звыш 58% усіх абшараў павета. За гады народнай улады амаль усе ПГР электрыфікавана.

(Працяг на стар. 4)



Перадавыя людзі сямігодкі БССР. Маладыя даяркі саўгаса «Стара-Барысаў» Мінскай вобласці сёстры Марыя (злева) і Анна Маслоўскія. За высокія надоі малака яны ўзнагароджаны дзяржаўнымі ўзнагародамі: Марыя — ордэнам «Знак пашаны», Анна — медалем «За працоўную доблесць».




## XXII З'ЕЗД ЛКСМБ

17 студзеня адбыўся XXII з'езд ЛКСМБ. Справаздачу Цэнтральнага Камітэта камсамола Беларусі зрабіў першы сакратар ЦК ЛКСМБ Л. Г. Максімаў.

У дакладзе ўказваецца аб мерапрыемствах, якія правозіў Цэнтральны Камітэт ЛКСМБ па мабілізацыі моладзі на актыўны ўдзел у барацьбе за тэхнічны прагрэс, за высокую якасць выпускаемай прадукцыі.

Спыняючыся на пытаннях удзелу камсамольцаў ва ўздыме сельскай гаспадаркі Беларусі, тав. Максімаў гаворыць, што ЦК ЛКСМБ у справаздачны перыяд удзяляў вялікую ўвагу паляпшэнню работы сярод сельскай моладзі.

Закранаючы пытанні ідэалагічнай работы сярод моладзі, тав. Максімаў гаворыць, што камсамол заклікан выхоўваць перакананых і страсных байцоў камунізма, якія

(Працяг на стар. 4).

## ПАТРЭБНАЯ ПРАЦА

Таварыства па распаўсюджванню практычных ведаў. Назва знаёмая. Асабіста знаёмая, калі так можна сказаць, менш больш дваццатаму, дваццаць пятаму жыхару Беласточчыны. Існуе ад 1957 года. Ад 1957 года сарганізавала каля 400 курсаў, удзел у якіх прыняло каля 16 тысяч асоб.

Курсы самыя розныя: кройкі і шыцця, пячэння і варэння, матацыклавыя і самахадовыя, касметычныя, курсы хімічных лабарантаў, курсы радыёмеханікаў, механікаў тэлебачання, курсы металасваркі і гэтак далей.

У асноўным усе курсы можна падзяліць на чатыры катэгорыі:

— курсы прафесіянальныя,

— курсы практычных ведаў «для сябе»,

— курсы для актуальна працуючых у данай прафесіі, мэтай якіх удасканаленне ведаў у гэтай жа прафесіі.

— курсы, рыхтуючыя да акрэсленай прафесіі.

Зараз ніхто не сумняваецца ў патрэбе існавання гэтакага роду Таварыства. Эфекты яго працы гавораць самі за сябе.

(Працяг на стар. 4)

## СУСТРЭЧА З МІНСКІМІ ВУЧОНЫМІ



Нядаўна Беласток наведала дэлегацыя Беларускага палітэхнічнага інстытута ў Мінску ў складзе: дырэктара прафесара Т. М. Кокіна, дэкана механічна - тэхналагічнага факультэта дацэнта А. М. Дмітровіча і загадчыка кафедры механікі пабудоў дацэнта А. Ф. Анішчанкі. Беларускія вучоныя прыбылі ў Беласток па запрашэнню Вячэрняй інжынернай школы ў Беластоку. У часе сваёй пабыўкі ў нашым горадзе яны пазнаёміліся з працай Інжынернай школы, расказалі аб дасягненнях свайго інстытута, а таксама пазнаёміліся з Беластокам. Між іншым мінскія вучоныя наведалі ГП БГКТ. На сустрэчы з дарагімі гасцьмі кіраўніцтва ГП БГКТ паінфармавала вучоных аб працы Таварыства, госці ў сваю чаргу расказалі аб жыцці Савецкай Беларусі. Сустрэча прайшла ў сяброўскай, сардэчнай атмасферы і пакінула на ўдзельніках яе прыемнае ўражанне.

*

На здымку: у час сустрэчы, сядзяць (злева направа) — галоўны рэдактар «Нівы» Г. Валкавыцкі, дацэнт А. М. Дмітровіч, дацэнт А. Ф. Анішчанка, старшыня ГП БГКТ Л. Бялецкая, рэктар Інжынернай школы ў Беластоку мгр інж. М. Іпянтоўскі і сакратар ГП БГКТ Ул. Юзвюк.

Фота: Ю. Рыбінскі

